*З.Ф. Саўка*

# *БРУНА*, *ВІКА*, *КАРЛА* – ЁН ЦІ ЯНА? ГЕНДЭРНЫ АСПЕКТ АДАПТАЦЫІ НЕНАЦІСКНОГА ФІНАЛЬНАГА *-О*

## Гісторыя пытання

Іншамоўнае ненаціскное **-о** ў беларускім правапісе, на жаль, перажыло даволі бурлівую гісторыю. Як вядома, у граматыцы Тарашкевіча іншамоўнае **о**, як правіла, перадавалася нязменна. Аднак у сярэдзіне 1920-х гг. узняліся галасы на карысць правядзення акання і ў запазычаннях, што абгрунтоўвалася патрэбамі лікбезу і хутчэйшай беларусізацыі новадалучаных да БССР этнічна беларускіх тэрыторыяў РСФСР. Акадэмічная канферэнцыя 1926 г. падтрымала правядзенне акання, але ў фінальнай пазіцыі прапанавала пакінуць **о**. Гэтае рашэнне знайшло адлюстраванне ў праекце правапісных зменаў 1930 г. (яго часам называюць Праектам Некрашэвіча): «На канцы чужаземных слоў ненаціскное “о (ё)” захоўваецца: Прыклады: *ра́дые*, *тры́е*, *со́лё*, *нэ́то*, *бру́то*, *кака́о*, *фра́нко*, *інко́гніто*[22]» [1, с. 31].

Як вядома, амаль усе стваральнікі Праекту 1930 г. былі рэпрэсаваныя, а сам дакумент быў названы нацдэмаўскім і аддадзены на шальмаванне.

У 1933 г. з’явіўся новы праект (не блытаць з рэформаю 1933 г.!), які не толькі захаваў цытаванае правіла праекту 1930 г., але і расшырыў зону захавання зыходнага **о** – коштам выпадкаў графічнага **ё**: «Ненаціскныя **lo**, **jo** [у] чужаземных словах захоўваюцца нязьменнымі: *лёгічны*, *апалёгэт*, *пэдолёг*, *ётаваны*, *лёкамабіль*, *блёкнот*, *блёкада*, *солё*» [2, с. 21]. І гэты дакумент, і яго аўтары зазналі прыблізна такі ж лёс, што  і Праект 1930 г.

У ходзе рэформы 1933 г. вярнуліся да фармулёўкі «нацдэмаўскага» Праекту Некрашэвіча, пакінуўшы **-о** ў фінальнай пазіцыі: *нето*, *інкогніто*, *радыё*, *трыё* [3, с. 18]. У такім напісанні пералічаныя словы трапілі ў першы акадэмічны лексікаграфічны даведнік «Руска-беларускі слоўнік» пад рэдакцыяй Андрэя Александровіча (1937).

Адметна, што наступныя праекты рэформы беларускага правапісу (1939 і 1940 гг.), якія меліся працягнуць русіфікацыйны вектар рэформы 1933 г., пакінулі гэтае правіла без зменаў. Захаваў гэтую лінію і першы ў гісторыі беларускай лексікаграфіі арфаграфічны слоўнік 1948 г. Лобана і Судніка пад рэдакцыяй Крапівы. Змешчаны ў якасці прадмовы да гэтага

---

[22] Тут і далей вылучэнне тоўстым шрыфтам нашае (З.С.).

выдання шырокі арфаграфічны нарыс, які стаў першым пасляваенным кадыфікацыйным кодэксам, патрабаваў захоўваць канцавы **о**: «у нязменных словах [іншамоўнага паходжання] *бру́т**о***, *нé**то***, *інкóгніт**о***, *дына́м**о***, *фóт**о***, <..> *Осл**о***, *Барнé**о***» [4, с. 20].

Але праз тры гады Праект 1951 г., які ў выпадку прыняцця працягнуў бы русіфікацыю беларускай арфаграфіі, адлюстраваў змену у стаўленні да **-о**: «Ненаціскное О перадаваць праз А незалежна ад паходжання слова <..> На канцы нязменных слоў: *брут**а***, *нет**а***, *інкогніт**а***, *дзінам**а***, *фот**а***, *алегр**а***; у тым ліку і ва ўласных імёнах, прозвішчах і геаграфічных назвах: *Марк**а***, <..> *Лёзн**а***, *Маладзечн**а***[23], *Арынок**а***, *Сан-Францыск**а***, *Осл**а***, *Конг**а***, *Глазг**а***, *Чыкаг**а***». І ўсё ж Праект пакідаў для фінальнага **о** нейкую прастору: «Выключэнне: канцовае О пасля галоснай захоўваецца без змены: *рады**о***, *капрычы**о***, *тры**о***, *Антоні**о***, *Барне**о***, *Більба**о***, *Ватэрло**о***, *Токі**о***, *Цында**о***, *Мінданa**о***, *Ма**о***, *Ца**о*** і інш. [5, с. 5]. Кадыфікавалі гэтую прапанову праз змены 1957 – 1959 гг. практычна ў той жа фармулёўцы [6, с. 8, 9, 18]. І нарэшце правапісны Закон 2008 г. скасаваў і выключэнне [7, с. 7], праўда, пакінуў ненаціскное **-ё**: *рады**ё*** [с. 67], *Віторы**ё*** [с. 44].

**Матывацыя**

Разгледзім матывы скасавання ненаціскнога **-о** на карысць **а**.

1. «**Поўнае правядзенне акання спрашчае правапіс**». Звычайна змены ў беларускім правапісе рабіліся ў імя спрашчэння: каб шырокія народныя масы атрымалі самы просты шлях да пісьменнасці. Калі на пачатку XX ст. такое абгрунтаванне выглядала рэзонным, хоць і не бясспрэчным, то перанясенне такога падыходу ў XXI ст., калі шырокія народныя масы ўжо даўно авалодалі пісьмом і ўзяліся за авалоданне замежнымі мовамі, – як найменш праява анахранізму. Сёння нельга мысліць катэгорыямі, якія выглядалі мэтазгоднымі стагоддзе таму – у пару пераважнае непісьменнасці беларусаў.

Ад беларускага правапісу цягам усяго XX ст. патрабавалі спрашчэння, спрашчэння і спрашчэння. Аднак мова – гэта найскладанейшая сацыяльна-прыродная з’ява, і калі мы бярэмся адлюстроўваць яе графічнымі сродкамі, то наіўна чакаць, што такі найскладанейшы механізм можна апісаць пры дапамозе дзясятка прымітыўных правілаў. Гэта такі ж абсурд, як патрабаваць ад законаў механікі спрасціцца, каб імі мог авалодаць дзетсадавец.

2. **«Оканне не характэрнае для беларускай мовы».** Гэта не зусім так. Канцавое оканне (*бацьк*[о], *першаг*[о], *віднел*[о], *мног*[о]) – нярэдкая

[23] Звяртае на сябе ўвагу залічэнне беларускіх тапонімаў да катэгорыі нескланяльных.

з’ява на беларускай дыялектнай прасторы: гэта адна з найважнейшых фанетычных рысаў паўднёва-заходняга дыялекту, што ахоплівае больш за траціну тэрыторыі сучаснай Беларусі [8, карты № 14, 94]. Гісторыкі беларускае мовы ведаюць, што канцавое оканне ў вялікай ступені было ўласцівае беларускаму пісьму дакадыфікацыйнае пары: яго мы назіраем і ў «Мужыцкай праўдзе» Каліноўскага, у гутарках «Пра багацце і беднасць», «Аб тым, куды мужыцкія грошы ідуць», спарадычна ў газетах «Наша доля» і «Наша ніва», у шэрагу кніжных выданняў. Канцавое оканне знаходзім нават у першых беларускіх граматыках – аўтарства А.Луцкевіча [9] і Б.Пачобкі [10].

3. **«Аканне – найважнейшая фанетычная рыса беларускае мовы, таму яе трэба абавязкова адлюстроўваць на пісьме».** Аканне не выключна беларуская з’ява, яно ўласцівае і расейскай мове; толькі ў беларускай аканне адлюстроўваецца на пісьме, а ў расейскай – не. Праўда, у расейскай літаратурнай мове яно мае крыху іншы характар (моцная рэдукцыя), чымся ў сярэднебеларускіх гаворках.

Плануючы ўносіць нейкія змены ў правапіс, трэба выразна сабе ўяўляць, дзеля якой мэты гэта робіцца, трэба спрагназаваць, якую тэктоніку такія змены ў мове абудзяць. Графіка – магутны інструмент уплыву на маўленне, у т. л. дзейсны сродак захавання ў вербальнай мове тых фанетычных рысаў, якім пагражае сціранне пад уплывам вонкавых чыннікаў. У 1926 г., калі вырашылі правесці аканне ў іншамоўнай лексіцы, гэта рабілася дзеля павышэння механічнасці пісьма для мільёнаў непісьменных людзей.

Сёння нашыя сучаснікі, аўтары Закону 2008 г., працягнулі той жа «акальны» вектар, фанетызуючы пісьмо там, дзе маўленню дэфанетызацыя (у нашым выпадку – страта акання) аніяк не пагражае. Як не мае сэнсу, скажам, замацоўваць на пісьме аглушэнне канцавых зычных, бо яно і так адбываецца, таму што гарантам яго механічнай, не абапёртай на графіку рэалізацыю выступае тая ж фанетычная рыса ў расейскай мове.Гэтак жа  не мае сэнсу яшчэ больш замацоўваць аканне – яго існаванню ў маўленні анічога не пагражае, прынамсі да таго часу, пакуль акаюць расейцы. Такім чынам, імкненне максімальна поўна, татальна адлюстраваць аканне ў беларускай графіцы – збыткоўнае, а праз гэта – і шкоднае.

**Абароны, у т. л. праз графіку, патрабуе зусім не аканне, а тыя адметныя фанетычныя рысы беларускае мовы, якія адрозніваюць нашую мову ад расейскай.**

Цягам апошніх дзесяцігоддзяў назіраецца паступовае знікненне з беларускага маўлення цэлага шэрагу найважнейшых фанетычных рысаў

нашае мовы, якія не адлюстроўваюцца на пісьме: асімілятыўнай мяккасці; «мокрай» якасці свісцячых гукаў, найперш мяккіх, т. зв. прэпалатальных; асіміляцыйных працэсаў на сутыку шыпячых і свісцячых; білабіяльнага вымаўлення **в**; пратэтычнага ёта перад непрыкрытым і націскным пачатковым **і**; змякчэння заднеязычных перад **і** на сутыку фанетычных словаў і г.д. Нават усё часцей гучаць замест фрыкатыўных [γ], [γ'] – выбухныя [g], [g'], замест цвёрдага [č] – мяккі [č'], што і не дзіва, калі лічыць тоеснасць графемаў **г** і **ч** у беларускай і расейскай мовах, дзе яны абазначаюць розныя гукі.

Вось дзе годнае поле для нашых кадыфікатараў – захаваць, абараніць тыя гукі, тую фанетычную дыстрыбуцыю, тое маўленне, якому рэальна пагражае знікненне. Не хочам вяртаць мяккія знакі для абароны асімілятыўнай мяккасці, бо гэта выглядае некаму як палітычнае рашэнне, давайце абаронім гэтую найважнейшую рысу нашае мовы іншым спосабам, як прапаноўвалася сярод іншага на Акадэмічнай канферэнцыі 1926 г. – дыякрытычнымі знакамі [11, с. 130]. Але асімілятыўную мяккасць ад знікнення трэба настойліва бараніць.

Зразумела, мы далёкія ад думкі, што замацаванне ў графіцы пэўных фанетычных рысаў абсалютна гарантуе іх захаванне ў маўленні. Доказ гэтага мы назіраем цяпер на прыкладзе паступовага саступання беларускага якання расейскаму іканню: ***зялёны*** [z'i-], з'яўлення [j] на канцы прыметнікавых словаў: *хуткі*[j]. Аднак замацаванне на пісьме фанетычных рысаў дае ясную карціну арфаэпіі канкрэтнага слова, служыць у нашых умовах ці не адзінаю засцярогаю перад зрусіфікаваннем маўлення.

4. **«Беларус не можа вымавіць ненаціскнога -*о*»**. Гук [o] – сістэмны, натуральны, заканамерны, неад'емны элемент беларускага фанетычнага набору. Вядома, ненаціскное становішча – нехарактэрнае для дыстрыбуцыі /o/ ў сярэднебеларускіх гаворках, на якіх базуецца арфаэпія літаратурнае мовы. Аднак фаналагічная сістэма беларускае мовы зазнала ў XX ст. сапраўдную рэвалюцыю, прыняўшы ў асноўны фанетычны набор пазасістэмныя гукі [f] і [f'] ды дазволіўшы дыстрыбуцыю [γ'], [k'], [x'] + [o], [u] (***гё****зы*, ***гю****рза*, ***кю****ры*, ***кю****вет*, *мані****кю****р*, ***Гё****тэ*, ***Кю****сю*), [k] + [e] (***кэ****б*, ***кэ****тч*, *нэц****кэ***, *са****кэ***, ***Хё****ндай*), [b'], [p'] + [u] (***бю****ро*, ***пю****рэ*), [j] + [y] (эст. ***Йы****гі*), пачатковы [y]- (турэцк. ***Ы****спарта*, карэйск. *О* ***Ы****н Сон*). Такіх спалучэнняў не ведае беларуская дыялектная прастора (зразумела, калі не браць пад увагу фанетыкі пераходных беларуска-ўкраінскіх гаворак Заходняга Палесся). І не зважаючы на абсалютную, здавалася б, непрымальнасць такой дыстрыбуцыі з гледзішча беларускае мовы, сотні

апелятываў і онімаў з такімі спалучэннямі занялі трывалае месца ў нашым лексіконе і ўспрымаюцца як норма.

Чаму ж тады мы не дазваляем **-о** захаваць на беларускай глебе сваю прыродную якасць у іншамоўных, не беларускіх (!) онімах? Такіх, як *Джардан**о** Брун**о***, *Марк**о** Пол**о***, тата *Карл**о*** ды інш.

І ўсё ж калі нават дапусціць, што нехта не здолее вымавіць ненаціскны **-о**, то гэта не нагода перадаваць яго на пісьме нейкаю іншаю літараю. Пісьмо любой мовы не ёсць дакладная фанетычная транскрыпцыя. Беларус не здолее вымавіць [f] перад [γ] у слове *А**ф**ганістан*. Аднак гэты факт не схіліў аўтараў ані зменаў 1957 – 1959 гг., ані Закону 2008 г. правесці фанетычна абгрунтаванае напісанне *А**ў**ганістан*, хоць гэтае рашэнне было б усё ж больш апраўданае за шэраг прынятых імі.

Істотны момант, на які забываюцца прыхільнікі татальнага акання: у дачыненні ненаціскнога **э** ў матэрыяле іншамоўнага паходжання аканне, як правіла, не праводзіцца, хоць на карысць яго правядзення прамаўляюць усе тыя ж довады, што і на карысць правядзення акання ў дачыненні ненаціскнога **о**.

**Наступствы**

У літаратуры неаднаразова адзначалася, што татальнае аканне прыводзіць да шэрагу адмоўных наступстваў: істотна скажае зыходную форму; абцяжарвае ідэнтыфікацыю лексемаў, у асобных выпадках робячы іх непазнавальнымі (асабліва кароткія словы, у якіх інфарматыўнасць кожнай літары асабліва высокая); зацямняе этымалогію лексемаў; робіць немагчымым аднаўленне зыходнае формы; спараджае новыя амонімы. Гэтак, ***A**bama* (затока і гатэль на Канарах) і ***O**bama* (прэзідэнт ЗША і горад у Японіі) супалі ў *Абама*.

Як вядома, найвышэйшую інфарматыўнасць маюць першая і апошняя літары графічнага слова. У флектыўных мовах, да якіх належыць і беларуская, значэнне апошняе літары павышаецца з прычыны таго, што фіналь ёсць асноўны носьбіт граматычнага значэння.

Правядзенне акання ў дачыненні **-о** ў асабовых імёнах з раманскіх моваў мае яшчэ адно наступства. Як вядома, словы на **-а** асацыююцца для носьбітаў славянскіх моваў найперш з жаночым родам, і калі мы сутыкаемся з імёнамі *Александр**а***, *Альберт**а***, *Бон**а***, *Брун**а***, *Вік**а***, *Каміл**а***, *Карл**а***, *Франчэск**а*** і шмат іншых, нават мы, беларускія мовазнаўцы, інтуітыўна звязваем іх хутчэй з асобамі жаночага полу. У паспалітага ж карыстальніка мужчынскі пол чалавека з імем, напрыклад, *Віка* выклікае мінімум неўразуменне. І не дзіва, бо ў сапраўднасці мужчыну завуць не

*Vica*, а *Vico*. Аднак прынятыя нашымі калегамі правілы змушаюць усіх нас перарабляць мужчыну на жанчыну. Назва твору, скажам, *«Francisco y Francisca»* малюе перад намі пару – мужчыну і жанчыну. Але ў беларускім перакладзе мы атрымліваем *«Франсіска і Франсіска»* – і вобраз разбураецца: мы можам уявіць як мужчыну з жанчынаю, так і дзвюх жанчын, і двух мужчынаў. Назва шэкспіраўскай трагедыі «Рамео і Джульета» да мінулага года малявала ўяўленню асобаў розных палоў. Аднак з 1 верасня 2010 г. (калі Закон 2008 г. набыў сілу) *Рамэо* ператварыўся ў *Рамэа*, і цяпер толькі веданне сюжэту ратуе ад аблудных уяўленняў пра гэтую пару.

Апроч блытаніны, тут аканне выклікае і юрыдычныя наступствы, сутыкаючы беларускую форму з заканадаўствам шэрагу іспанскамоўных краінаў: законы Аргенціны, Іспаніі, Перу, Сальвадору, Чылі адмаўляюцца афіцыйна рэгістраваць «асабовыя імёны <..>, што выклікаюць непаразуменні адносна палавой прыналежнасці асобы, якой яны надаюцца» [12].

Падлягаючы аканню ў фіналі, нескланяльныя назоўнікі страчваюць маркер нескланяльнасці – **-о**; на яго месцы апынаецца **-а**, які выступае ў мове маркерам жаночага скланення. Такім чынам, лексема, пазбаўленая фармальнае прыкметы нескланяльнасці, робіцца для носьбіта граматычна «цьмянаю»: нават калі і ўсведамляецца, што пэўнае слова належыць да ніякага роду, узнікае база для працягу асваення фанетычнага асваеннем граматычным, што рэалізоўваецца ў яго скланяльнасці. Прыкладам, запазычанне *сола* фанетычна прыпадабняецца да ўласнабеларускага *сала*, што цягне за сабою і прыпадабненне граматычнае: *з'еў з салам – выступіў з солам (на гітары)*. Або запазычанне *крэда* ў выніку правядзення акання ператвараецца ў паронім для запазычання *крэйда*, пры тым што ў адрозненне ад папярэдняй пары, у іх не супадае не толькі параметр «скланяльнае~нескланяльнае», але і граматычны род. Калі б *соло* і *крэдо* захавалі канцавы **о**, апісаныя тут збліжэнні былі б немагчымыя.

Здавалася б, правядзенне акання ў дачыненні **-о** на практыцы не складае вялікай праблемы, калі мець «падсветку» ў выглядзе формы таго ж слова, прыкладам, у расейскай мове: калі па-расейску канчаецца на **-о**, то ў беларускай мове слова нескланяльнае. Напр., *сола* (< *solo*), *крэда* (< *credo*), *Ісідора* (< *Isidoro*, *Isidora*), *Лаўра* (< *Lauro*, *Laura*), *Хульяна* (< *Juliano*, *Juliana*) не скланяюцца, калі ў расейскай маюць на канцы **-о**, і скланяюцца – калі **-а**. Аднак для чалавека, які засвоіў беларускую пісьмовую мову ў якасці першай, развязанне такой праблемы робіцца надзвычай складаным. Не кажучы ўжо пра тое, што такая графічна-

граматычная несамастойнасць беларускага пісьма – найлепшы спосаб падкрэсліць другаснасць беларускае мовы адносна расейскае.

І нарэшце канцавое аканне можа прыводзіць да непажаданых з эстэтычных меркаванняў сугуччаў, як у наступных выпадках: апелятыў *марок**а*** і назва краіны *Марок**а*** (< *Morocc**o***), лексема *ма́ч**а*** (< *mach**o***) і яе амограф – слова *мач**á***. Дарэчы, у беларускім друку часцей акання тут не праводзяць, пішучы насуперак правілам – *мач**о***: носьбіты мовы хутчэй згаджаюцца прадэманстраваць сваю непісьменнасць, чымся выставіцца на смех. У нарматыўныя слоўнікі гэтая лексема не трапіла, а «Слоўнік новых слоў» фіксуе абедзве формы – і непрыстойную, хоць і правільную на **-а**, і, здавалася б, няправільную, затое прыстойную на **-о** [13].

**Размежаванне сфераў**

Праводзячы аканне на месцы **-о**, кадыфікатары наўрад ці ўсведамлялі, што парушаюць межы сваёй кампетэнцыі як нармалізатараў правапісу і ўваходзяць у сферу адаптацыі іншамоўных уласных назваў (онімаў). А тут працуюць ужо не зусім тыя ж законы, што ў галіне правапісу апелятываў. Расейская кадыфікацыйная традыцыя, закладзеная Гротам у XIX ст., надавала арфаграфічнаму зводу функцыі рэгулятара графікі іншамоўных фактаў. Аднак пачынаючы ўжо з 1950-х гг. у расейскім мовазнаўстве паступова адмовіліся ад такой практыкі – там пачалі разводзіць функцыі: правапісныя кодэксы ўжо прызначаліся для прэскрыпцыі арфаграфіі апелятыўнай лексікі ды таксама онімаў уласнарасейскага паходжання, а напісанне іншамоўных онімаў пачало рэгулявацца адмысловымі даведнікамі (напр., геаграфічнай наменклатуры) і сістэмаю інструкцыяў для асваення фактаў іншых моваў.

Гэта дазволіла істотна расшырыць межы традыцыйнай дыстрыбуцыі расейскае мовы ды значна больш паслядоўна, дакладна і, галоўнае, сістэмна перадаваць замежныя онімы сродкамі расейскага пісьма. Прыкладам, правілы для асноўнага корпусу лексікі амаль не дазваляюць ужываць літару **э** ў пазіцыі пасля зычных – інструкцыі здымаюць гэтае абмежаванне.

У беларускамоўнай прасторы такія крыніцы толькі пачынаюць ствараецца. Праўда, праекты інструкцыяў для літоўскай (У.Свяжынскі) і чэшскай ды славацкай (І.Лучыц-Федарэц) моваў з’яўляліся яшчэ ў 1980-я гг., аднак да практычнага іх выкарыстання не дайшло. Апошнімі гадамі з ініцыятывы Дзяржаўнага камітэту зямельных рэсурсаў, геадэзіі і картаграфіі (перайменаваны ў камітэт маёмасці) з’явіліся афіцыйна зацверджаныя інструкцыі для польскай, літоўскай, латышскай і

ўкраінскай моваў, якія выкарыстоўваюцца пры выданні картаграфічнае прадукцыі названага камітэту. Нашымі намаганнямі створаны праект даведніка «Іншамоўныя найменні ў беларускім тэксце», які ўключае рэкамендацыі для асваення матэрыялу з больш як 40 моваў і падрабязныя інструкцыі для такіх моваў, як: арабская, балгарская, в'етнамская, іспанская, каталанская, кітайская, латышская, лацінская, літоўская, нідэрландская, нямецкая, польская, харвацкая, чэшская, японская.

**Практыка асваення**

У 1960-х гг., калі нашае энцыклапедычнае выдавецтва пачало ствараць беларускую энцыклапедыю, аніякіх інструкцыяў для іншамоўна-беларускага асваення не існавала, і выдавецтва мусіла самастойна выпрацоўваць прынцыпы адаптацыі. У выніку ў БелСЭ і БелЭн мы знаходзім сотні напісанняў, якія пярэчаць правілам арфаграфіі, але застаюцца ў згодзе з арыгінальным гучаннем іншамоўных уласных назваў, пакідаючы ненаціскныя **о** і **ё**, напр.: *г**о**хуа́*, *дз**ё**ма́н*, *В'**ё**та́н*, *Г**ё**йг**ё**ль*, *Гру́дз**ё**ндз*, *Гу́тфр**о**йнд*, *Дзю́сельд**о**рф*, *За́менг**о**ф*, *К'е́ркег**о**р*, *К**ё**льр**о**йтэр*, *Ль**ё**рэ́нтэ*, *Н**ё**іскі (мірны дагавор)*, *Н**о**йбра́ндэнбург*, ***О**'Бра́ен*, *Пе́ц**ё**фі*, у т. л. на канцы онімаў: *Ага́й**о***, *Бадоль**ё***, *Верок'**ё***, *Ой**о***, *Трухі́ль**ё*** ды інш. Таксама сустракаем ненаціскное **о** і ў акронімах: *Г**О**ЭЛРО́*, *НАТ**О***.

Таксама не варта забывацца, што ненаціскны **о** прысутны і ў агульнаўжывальнай апелятыўнай лексіцы – у складаных словах, якія паводле адпаведнага правіла арфаграфіі трэба пісаць праз **а**: *шт**о**дзё́нны*, *г**о**фма́ршал*, *г**о**фма́йстар*, *гр**о**сма́йстар*, *х**о**рма́йстар*, *кр**о**нпры́нц* ды інш. Сотні моўных фактаў не змяшчаюцца ў пракрустаў ложак татальнага акання і патрабуюць іншага кадыфікацыйнага развязання.

Увесь гэты матэрыял складаецца ў цэлы корпус прэцэдэнтаў захавання зыходнага **о** ў ненаціскным становішчы.

**Выснова**

Татальнае аканне ў дачыненні **о** ў іншамоўным матэрыяле, асабліва ў ініцыяльнай і фінальнай пазіцыях онімаў, заўважна зніжае функцыянальнасць беларускіх асваенняў. Гэта змушае ставіць пытанне пра частковую адмову ад акання, прынамсі ў фіналях іншамоўных уласных назваў, і вяртанне да фармулёўкі правіла 1933 г.: «словы падпарадкоўваюцца правілу акання за выключэннем канчаткаў, у якіх **о** (**ё**) захоўваецца» [3, 18].

Адначасова варта прызнаць за арфаэпічную норму і окальную, і акальную вымову фінальных ненаціскных **о**, **ё**.

**Літаратура**


1. Беларускі правапіс (праект). Мінск, 1930.
2. Праект спрашчэння беларускага правапісу. Мінск, 1933.
3. Правапіс беларускай мовы. Мінск, 1934.
4. *Суднік М.Р., Лобан М.П.* Арфаграфічны слоўнік беларускай мовы / Пад рэд. К.К. Крапівы. Мінск, 1948.
5. Праект змен і ўдакладненняў беларускага правапісу. Мінск, [1951].
6. Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі. Мінск, 1959.
7. Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі. Мінск, 2008.
8. Дыялекталагічны атлас беларускай мовы. Мінск, 1963.
9. *Łuckiewič Ant.* Jak prawilna pisać pa biełarusku. Wilnia, 1917.
10. *Pačobka B.* Hramatyka biełaruskaj mowy. Wilnia, 1918.
11. Працы Акадэмічнае конфэрэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі. Мінск, 1927. С. 130.
12. З заканадаўства Аргенціны: Ley del nombre de las personas naturales. Ley 18.248. Art. 3. = Закон аб называнні фізічных асобаў. Закон 18 248. Арт. 3.
13. *Уласевіч В.І., Даўгулевіч Н.М.*. Слоўнік новых слоў беларускай мовы. Мінск, 2009.